*Хай жа ўсе, усе, хто можа,*
*Возьмуць свой кіёк дарожны,*
*У край айчынны час ісці нам*
*Вывучаць свой люд.*

*Ф. Багушэвіч.*

КУФЭРАК №15

Культурна–гістарычная ўкладка да "Рэгіянальнай газеты"

МОВАЗНАЎСТВА

# Як слова наша адгукнецца

Цяпер у друку можна сустрэць, відаць, не без уплыву рускай мовы, слова **аднойчы**, хоць у народных казках заўсёды было: **аднаго разу, аднаго летняга дня** (однажды в летний день), **таго дня, тае вясны, таго году** (нароўні з прыназоўнікавымі формамі: **у** тую вясну, **у** той год). Такім чынам, для нашай мовы характэрна побач з прыназоўнікавымі формамі **у** тое лета, **у** тую нядзелю і беспрыназоўнікавы родны склон.

З гэтага беспрыназоўнікавага роднага склону, які служыць для абазначэння часу, вынікае і беспрыназоўнікавы родны склон даты: перш**ага** студзе**ня**, Восьм**ага** сакаві**ка**, Перш**ага** мая (а не Першае мая). А між тым, у некаторых школах настаўнікі вымушаюць вучняў пісаць: дваццат**ае** студзеня і гэтак далей.

У беларускай мове побач з формамі **кожны год, кожны месяц, кожны тыдзень** (слова **кожны** + назоўнікі часавага значэння – дзень, ноч, гадзіна, хвіліна, мінута, секунда, сезон, квартал, дэкада, тыдзень, нядзеля ды іншыя) ужываюцца ў тым жа значэнні складаныя словы з пачатковым **што**: штогоду (штогод), штомесяца (штомесяц), штотыдня (штотыдзень), штонядзелі і гэтак далей. Пашыраныя ў нас аналагічныя прыметнікі, назоўнікі: штотыднёвы, штотыднёвік.

Паглядзіце, як перакладаюцца на рускую мову такія прыслоўі:

штодэкадна – ежедекадно, подекадно

штодня, штодзённа – ежедневно, каждодневно, повседневно.

Так вы засцеражэце сябе ад розных штучных слоў, як **паўсядзённа** і г. д., якія гуляюць на старонках газет.

*Працяг будзе.*

УГОДКІ

*Да 110-годдзя Казіміра Сваяка*

# Вялікі паэт-духоўнік

Нядоўгае, але надзвычай творчае, насычанае ідэаламі духоўнасці і гуманізму, было жыццё нашага земляка, каталіцкага святара, паэта і публіцыста Казіміра Сваяка. Канстанцін Стаповіч, а гэта яго сапраўднае імя, нарадзіўся 19 лютага 1890 года ў вёсцы Барань на Астравеччыне ў працавітай сялянскай сям'і. Як і іншыя вясковыя дзеці, ён разам са сваім братам Альбінам (у будучым – грамадска-палітычным дзеячам Заходняй Беларусі) дапамагаў бацькам па гаспадарцы. Ужо ў маленстве пад уплывам пачутых казак, баек, хараства навакольнай прыроды пачынае фармавацца паэтычная натура Кастуся. Бацькі, дбайныя заможныя сяляне, марылі даць сваім дзецям добрую адукацыю і таму аддалі яго спачатку ў Свянцянскае гарадское вучылішча, пасля якога ён у 1908 годзе паступіў у Віленскую каталіцкую духоўную семінарыю. Там юнак упершыню сутыкнуўся з беларускім нацыянальна-вызвольным рухам, да якога далучыўся і ідэалам якога заставаўся верным усё сваё жыццё. У 1913 годзе ў газеце "Беларус", якая выходзіла тут жа, ў Вільні, публікуюцца першыя вершы Казіміра Сваяка. А ў 1914 г., абараніўшы дыплом тэолага, ён накіроўваецца ў родныя мясціны служыць у касцёле вёскі Клюшчаны. Там малады святар разгортвае сярод парафіянаў культурна-асветніцкую працу, стварае хор, адкрывае ў ваколіцах сем беларускіх школ і нават настаўніцкія курсы. У 1916 годзе на базе Клюшчанскага хору, у які ўваходзіла блізу 40 чалавек, узнікае гурток беларускай моладзі "Хаўрус сваякоў", які ладзіць канцэрты, ставіць спектаклі, у тым ліку, напісаныя Казімірам Сваяком. Асаблівым поспехам сярод гледачоў карыстаецца яго драма "Янка Канцавы" і драматычная паэма "Купалле", заснаваная на фальклорным матэрыяле. Такая грамадска-культурная дзейнасць святара, які да таго ж вёў свае казані ў роднай мове, не спадабалася вышэйшаму каталіцкаму кліру. Спачатку пайшлі папярэджанні, а затым і пераводы ў іншыя мясціны: у лістападзе 1916 г. – на Беласточчыну, у 1919 – на Берасцейшчыну, у 1920 – у Засвір каля Свянцян. Але і там, насуперак усяму, ён не пакідае сваёй асветніцкай дзейнасці. На жаль, пачынае прагрэсаваць хвароба на сухоты, і яму ўсё часцей і часцей даводзіцца выязджаць на лячэнне ў польскі курортны горад Закапанэ. Адчуваючы блізкасць свайго скону, ён яшчэ больш энергічна і апантана працуе не толькі ў грамадскім жыцці, уключыўшыся ў стварэнне новай нацыянальнай партыі – Хрысціянска-дэмакратычнай злучнасці (ХДЗ), але і на творчай ніве. Хочацца паспець ажыццявіць задуманае. У 1924 годзе ў Віленскім выдавецкім таварыстве выходзіць у свет яго галоўная кніга – зборнік вершаў "Мая ліра", змест якога прасякнуты духам пратэсту супраць сацыяльна-нацыянальнага ўціску беларускага народа, вераю ў перамогу дабра, сілу роднай зямлі. У 20-я гады яго паэзію і шматлікія публіцыстычныя артыкулы друкуюць такія заходнебеларускія выданні, як "Наша думка", "Беларускі звон", "Новае жыццё", "Сялянская ніва", "Беларуская крыніца". Шмат часу ён аддаў і падрыхтоўцы саліднага, на 320 старонак, малітоўніка для беларусаў-католікаў "Голас душы", які яшчэ пры яго жыцці паспеў выйсці ў друк. Трэба зазначыць, што ўсё сваё свядомае жыццё К. Сваяк вёў уласны дзённік. У 1932 годзе ён быў увасоблены ў кніжку "Дзеля маёй мыслі, сэрца і волі", якая выйшла ў адной з друкарняў Вільні.

Памёр Казімір Сваяк 6 мая 1926 года на шпітальным ложку. Тут, у Вільні, на могілках Роса, на літаратурнай горцы, ён і пахаваны.

К. СВАЯК

МАЯ ЛІРА

БЕЛАРУСКАЕ ВЫДАВЕЦКАЕ ТАВАРЫСТВА. ВІЛЬНЯ ... 1924 г.

Вокладка кнігі К. Сваяка «Мая ліра».

Казімір Сваяк.

*Алесь ЦАДКО.*

НА ВАШУ КНІЖНУЮ ПАЛІЦУ

# Прага да святла

*Лічым мы сябе юнакамі,*
*А цяжкія лічбы гадоў*
*Пераспелымі жалудамі*
*Ападаюць са стукам на дол...*

*Пімен Панчанка*

Ала Клемянок

Яны не ведалі мяне...

Вершы

Паэзія Віленскага краю

Вокладка кнігі А. Клемянок.

Першы раз я ўбачыў маладзенькую, прыгожую і танюткую, як былінка, Алу Клемянок у далёкім ужо 80-м годзе. Ішло пасяджэнне літаратурнага аб'яднання "Купалінка", якое вёў незабыўны Генадзь Аляксандравіч Каханоўскі. Чыталіся вершы, праходзіла вялае іх абмеркаванне. Было лета, недзе сярэдзіна ліпеня, гарачыня і духата стаяла невыносная. Далі слова Але. Я не памятаю, што яна чытала, але да гэтага часу помню яе ўсмешку. Па-чалавечаму добрую, па-жаночаму мудрую і адначасова іранічна-паблажлівую. Такой і ведаю яе амаль дваццаць гадоў.

Ала Клемянок – паэт адметны, ні на каго не падобны. І ў гэтым зарука яе будучыні. Яна вельмі чулая (што важна) і паэтычная натура. Вершы свае не выседжвае: яны самі ліюцца з глыбіні яе душы. Яна нясе ў беларускую літаратуру па-свойму асэнсаваныя тэмы, свой стыль, сваю арыгінальную і непаўторную манеру пісьма. І таму выданне яе твораў – падзея не выпадковая, а цалкам заканамерная.

Не веру ў шчасце вечнае,
Ды мару, каб праз гады
Сыноў маіх рукі надзейныя
Паднеслі маці вады.

Вось так проста і адначасова мудра заканчваецца адзін з вершаў Алы Клемянок. І ў ім, мусіць, закладзена ўсё яе жыццёвае крэда. Усюды і заўсёды, у першую чаргу, жанчына, маці, і ў гэтым яна бачыць свой жыццёвы сэнс, сваё прызначэнне. У яе вершах няма голай і барабаннай рыторыкі, непатрэбнага пафасу, выскубанай патэтыкі. Яны вельмі жаночыя і адначасова беларускія. Апошняму сцвярджэнню не патрэбна здзіўляцца, бо спецыфічнымі нацыянальнымі рысамі беларусаў з'яўляюцца сціпласць, прастата (не блытаць з халуйствам і прымітывізмам), дабрыня і чалавечнасць, на чым па сутнасці і трымаюцца вершы Алы Клемянок. Яна паэт з цвёрдым грунтам пад нагамі, які стаіць на трох асновах, на трох кітах: любові да сваёй зямлі, свайго каханага і сваіх дзяцей. А гэта самы моцны і надзейны падмурак.

Каб без каша і без граша
Былі б шчаслівыя, як дзеці,
Тым фактам, што жывём на свеце,
Што кожны дзень для нас спярша...

У такіх вершах яна імкнецца надаць пэўным жыццёвым з'явам канкрэтныя філасофска-мастацкія абагульненні, пераасэнсаваць іх, паказаць іх пераемнасць, Боскую трываласць і непарушнасць. Бо ўсё пачынаецца з чалавечай любові і кахання. І, мусіць, менавіта таму гэтымі пачуццямі напоўнены ўсе вершы паэткі. Яны дамінуюць скрозь і ўсюды. Гэта своеасаблівыя мастацкія і эстэтычныя прынцыпы яе жыцця, яе поглядаў і мараў.

Не губляйце пяшчоту,
Дабрыню беражыце.
У гадзіны турботы
Пра каханне кажыце...

Вершы Алы Клемянок насычаны вялікай эмацыйнасцю, душэўнай адкрытасцю і вобразнай шчодрасцю. У яе творах няма абстрактна-зацемненых, незразумелых для чытача вобразаў-сімвалаў. У яе адметны і непаўторны моўны рытм, яскравае метафарычнае мысленне.

Надыходзіць вечар зімні,
Маразяны, сіні-сіні.
Злева – вокнаў жоўты колер,
Справа – лес ды бела поле.

Здаецца, спыніўся бацька-час, а мы з вамі недзе там, далёка, дзе знаходзіцца "дом, быццам вежа", аб які "вятрыскі б'юцца і завеі гнуцца". І бачым, як "сыпле снегам снежань белы", і стаіць "гай халодны і няўтульны". У Алы Клемянок багата вершаў, якія хочацца чытаць і перачытваць, бо гэта сапраўдны залаты запас, сапраўдны скарб беларускай паэзіі, а значыць, і наш з вамі, яе чытачоў. Да такіх вершаў можна аднесці: "Не пішуцца вершы ў шчасці...", "Мокры лістапад...", "Казка для каханага", "Святло апошняга кахання", "Вось і знікла цяпло", "Сынам", "Я на мілай тваёй Смаргоншчыне...", "Што ж ты, лета маё, заблудзілася", "Зялёным лугам ішла Купала" і шмат іншых. Што датычыць апошняга з пералічаных твораў, то пра яго можна сказаць, што ён адзін з нямногіх, дзе паэтка выкарыстоўвае народную рытміку, інтанацыю, метафару ды іншыя выяўленчыя сродкі, творча перапрацоўваючы іх. Вось адзін з прыкладаў, дзе ўсе моманты выступаюць вельмі выразна:

Зялёным лугам ішла Купала,
Чорныя косы ў росах купала,
Вымаклі косы, вымаклі вочы –
Што ж ты кароткі, лёс мой дзявочы?

А некаторыя тэмы проста нехарактэрныя для паэзіі Алы Клемянок, яны для яе далёкія і нават чужыя, хоць іншы раз і сустракаюцца ў яе творчасці. У першую чаргу гэта вершы на гістарычную і патрыятычную тэматыку. Адзіным вершам-выняткам можна назваць "Адгукніцеся мне, хто мяне разумее...", дзе, мусіць, упершыню грамадзянскія матывы арганічна спалучаюцца з унутраным, інтымна-задушэўным светам паэткі.

Адгукніцеся мне, хто мяне разумее!
Клічу я не сяброў – аднадумцаў заву,
Не братоў па крыві, а братоў па надзеі,
Тых, хто верай пустой не марыў галаву...

У гэтым вершы яе радкі гучаць як заклінанні, як крык, як боль сэрца. Як кожны сапраўдны паэт, яна гаворыць прарочыя словы, глядзіць у будучыню, у сённяшні і заўтрашні дзень:

Няўтульны свой край непрыхільныя дзеткі
Самазванцам аддалі на сорам і гвалт.
Я выходжу шукаць, ды не папараць-кветку,
Я збіраю братоў на апошні парад.

Як я сказаў у пачатку свайго слова на дарогу, Ала Клемянок вершы не выседжвае, яны ідуць з глыбіні яе душы самі, нараджаюцца і спяваюць самі, і іншы раз здаецца, што яны не слухаюцца яе, а жывуць як бы асобным самастойным жыццём... Ала Клемянок – паэт ад нараджэння. Дастаткова толькі паглядзець у вочы, каб пераканацца ў гэтым. Глыбінныя, з меланхалічнай задуменнасцю, яны, здаецца, працінаюць наскрозь. Такія людзі, знешне самастойныя і незалежныя, тым не менш, вельмі безабаронныя і кволыя ў жыцці. Неардынарныя ў думках і паводзінах, яны іншы раз шакіруюць акаляючых іх людзей сваім падыходам і стаўленнем да тых ці іншых падзей і жыццёвых фактаў. Яны – паэты і гэтым усё сказана.

*Міхась КАЗЛОЎСКІ*

ПАДАННІ РОДНАГА КРАЮ

# Жменька Крэўскіх легендаў



Мікола Купава. Крэўскі замак.

Зямля беларуская шчодра ўсыпаная легендамі і паданнямі. Некаторыя з іх знаходзяцца на паверхні, іх ведаюць усе. Іншыя ж, крыху прысыпаныя часам, ляжаць у памяці людской і чакаюць: а ці не знойдзецца хто, каб дастаць іх на свет боскі.

Вучні Крэўскай школы, якія наведваюць краязнаўчы гурток "Нальшаны", вырашылі заняцца зборам мясцовых легендаў і паданняў. Перш за ўсё, успомнілі тое, што чулі калі-небудзь самі. Пасля ўзяліся распытваць аднавяскоўцаў. І ў першую чаргу, тых, хто пражыў доўгі век і трымаў у памяці гісторыі, пачутыя яшчэ ад сваіх дзядоў. Тое-сёе ўдалося выцягнуць са старых кніг і разнастайных мемуараў. І кожнага разу, калі траплялі на нешта нязведанае ці напаўзабытае, дзівіліся: які каштоўны скарб мог пайсці ў нябыт!

Хто ведае, ці захавалася б да нашага часу легенда пра будаўніцтва Крэўскага замка, каб не запісалі яе ў XIX стагоддзі Уладзіслаў Сыракомля і Чэслаў Янкоўскі. Бо ўжо ніхто з мясцовых старажылаў не мог яе прыпомніць. І толькі з кніг гэтых краязнаўцаў вядома, што такая легенда была. Яна расказвала, што Крэўскі і Медніцкі замкі будаваліся адначасова. І ўзводзілі іх не звычайныя муляры, а магутныя волаты. Працуючы адначасова ў Крэве і Медніках, яны пазычалі адзін аднаму малаток, перакідваючы яго ў паветры праз чатыры мілі.

Яшчэ адной з крэўскіх легендаў даў другое жыццё Юзаф Грынкевіч, наш зямляк, які пасля II Сусветнай вайны апынуўся ў Польшчы. У сваім вершы "Пра Крэўскі замак" ён пераказвае легенду, пачутую ад бацькоў яшчэ ў дзяцінстве.

Быццам бы ў далёкія часы жыла ў Крэве дзяўчына, дачка мясцовага млынара. Была яна прыгожая, набожная і прыстойная. І вось аднаго разу ў яе закахаўся жудасны дух, што гаспадарыў у лёхах Крэўскага замка. З таго часу не даваў ён дзяўчыне спакою, штоапоўначы клікаў яе ў сваё змрочнае падзямельнае спатканне. У роспачы млынарова дычка заказала ў касцёле імшу за вечны супакой духа. І вось у дзень Задушны прыйшла ў Замак працэсія з ксяндзом, каб адслужыць там малебен. Дзень быў пагодны, але ў час імшы раптоўна пачалася бура. Нечакана з падзямелля выпаўзла хмара, ахутала млынарову дачку сваімі клубамі і пацягнула туды, адкуль з'явілася. У гэты момант заблішчалі маланкі, ударыў гром, і падзямелле засыпала зямлёй. З таго часу ніхто больш не чуў пра злога духа і ніхто не трывожыў мясцовых дзяўчат.

Легенда пра паходжанне назвы Крэва аказалася больш жывучай, чым дзве папярэднія. І няхай спрачаюцца вучоныя-гісторыкі, адкуль яна пайшла: ці ад наймення племені крывічоў, ці ад імя літоўскага паганскага жраца Крэва-Крэвейты, усё роўна мясцовыя жыхары будуць стаяць на сваім: у аснове назвы – слова "кроў". У старажытныя часы на нашых землях адбылося жорсткае пабоішча. Пасля яго вада ў мясцовай рэчцы была чырвоная ад крыві. І таму назвалі гэту рэчку Краўлянкай, а паселішча, якое тут узнікла – Крэвам.

Сярод маляўнічых крэўскіх пагоркаў сваёй веліччу і прыгажосцю вылучаецца Юрава гара. Знаходзіцца яна адразу ля замка і па колькасці складзеных пра яе легендаў можа паспаборнічаць са сваім таямнічым суседам. Даследчыкі лічаць, што названая гара ў гонар хрысціянскага святога Юрыя. І сапраўды, старажылы ўспамінаюць, што калісьці на веснавое свята Юр'я сюды збіралася местачковая моладзь на гулянні. Але, разам з тым, народная фантазія дала жыццё іншым тлумачэнням назвы пагорка. Адны вам распавядуць пра хлопца Юрку, якому загадалі за нейкую правіннасць нацягаць шапкай гару, вышэйшую за замак. І як усе здзівіліся, калі гэта работа была зробленая за адну ноч.

Ад іншых людзей можна пачуць пра другога Юрыя. Таму, быццам бы, прыснілася, што на гары ля замка закапана золата. Прачнуўшыся, Юрый кінуўся на пошукі скарба. Залез на гару і пачаў там капаць. Капаў-капаў, пакуль не заглынуў яго пясчаны вір, што ўтварыўся на дне ямы.

Сярод легендаў, запісаных у Крэве, нямала аказалася і такіх, якія расказваюць у многіх іншых кутках Беларусі. Вядома ж. Дзе ёсць замак, там абавязкова павінны быць свае прывіды, свой фантастычны падземны ход, які можа весці да самай Вільні. Таксама шмат дзе расказваюць пра царкву, што праваліліся пад зямлю. Толькі ў кожнай мясцовасці гэтыя легенды маюць свае асаблівасці, свае адметныя дэталі. Калі, напрыклад, у Крэве расказваюць пра царкву, што пайшла пад зямлю, то абавязкова распавядуць пра тое, як гэта адбылося.

Кажуць, такая царква стаяла калісьці на вяршыні Крэўскага гарадзішча. У тыя часы жылі тут хлопец і дзяўчына, якія моцна кахалі адно аднаго. Усё было б добра, але бацькі дзяўчыны былі супраць іх шлюбу. Здаецца, закаханым трэба расстацца. Але пачуццё іх было такое моцнае, што яны не ўяўлялі свайго далейшага жыцця не разам. І тады яны вырашылі павянчацца патаемна, без бацькоўскага благаславення. Так і зрабілі. І ў той час, калі на гарадзішчы ішло вянчанне, маці маладой даведалася пра змову. "Ах, каб вы праваліліся!" – вырваўся з вуснаў разгняванай маці праклён. І ў гэты ж момант і царква, і ўсе, хто там знаходзіўся, праваліліся пад зямлю. Кажуць яшчэ, што пасля гэтага здарэння ля гарадзішча пачала біць крынічка. Гавораць, гэта – слёзы. Ці то маладыя плачуць. Што пайшлі супраць волі бацькоў і загінулі, ці то маці раскайваецца, што ўпартасцю і гневам сваім загубіла родную дачку.

А жыццё, тым часам, ішло далей. Людзі ў мястэчку нараджаліся і паміралі. Кажуць, лёс жыхароў Крэва знаходзіцца ў руках таямнічай жанчыны, якая з'яўляецца тут па начах і ходзіць па замку. Апранутая ў белае адзенне, ходзіць яна і час ад часу скідвае з замкавых муроў па камені. А скіне – то ў Крэве хто-небудзь памірае.

Расказваюць яшчэ, як адзін чалавек захацеў пакончыць з жыццём, скочыўшы з высокай замкавай вежы. Але ў апошні момант паўстала перад ім постаць той белай жанчыны. Спалохаўшыся яе, чалавек вярнуўся да хаты і распавёў усё сваёй жонцы. А назаўтра ён усё роўна памёр. Відаць, гаспадыня чалавечых лёсаў перадумала, і ў падножжы замкавых муроў з'явіўся яшчэ адзін камень.

Легенды, як і людзі. Таксама маюць свае лёсы. Ды толькі гаспадарамі іх лёсаў з'яўляемся мы з вамі. Юныя краязнаўцы працягваюць сваю цікавую і карысную справу. І калі хто-небудзь мае чым папоўніць скарбонку крэўскіх легендаў – калі ласка. Рады будуць не толькі вучні, дакрануцца да гэтага багацця змогуць усе нашы нашчадкі.

***Аляксандр КАМІНСКІ.***

МЕМУАРЫ

# Чужы на Бацькаўшчыне

Мінула шмат гадоў, але той канцэрт мне запомніўся на ўсё жыццё.

Тады, у 1961 годзе, я вучыўся на філалагічным факультэце Белдзяржуніверсітэта. А ў вольны ад заняткаў час хадзіў на рэпетыцыі ў студэнцкі хор. Нашым спеўным калектывам кіраваў тады слынны Рыгор Шырма. Вядома, маючы такога знакамітага мастацкага кіраўніка, хор хутка стаў вядомы не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі. І хутка яму было прысвоена званне Народнай харавой капэлы.

Аднаго разу Рыгор Раманавіч прыйшоў на рэпетыцыю ў нейкім святочным і ўзнёслым настроі. Калі мы падрыхтаваліся развучваць новую народную песню, ён абвёў нас сваім бацькоўскім позіркам і ўрачыста-таямнічым голасам сказаў:

– Да нас з Прагі прыехаў на гастролі выдатнейшы беларускі спявак Міхал Забэйда-Суміцкі. Спявак сусветнай славы. Я маю некалькі запрашальных білетаў на яго канцэрт, які адбудзецца ў актавай зале кансерваторыі. Усіх парадаваць не магу, але тыя з вас, хто акуратна наведваў усе рэпетыцыі, змогуць заўтра пачуць голас знакамітага спевака.

Мы пачалі распытваць пра у Рыгора Раманавіча пра Забэйду–Суміцкага, прозвішча якога мы чулі першы раз, пра яго спеўныя поспехі, але ён больш адмоўчваўся, толькі паведаміў, што спявак апынуўся на чужыне не па сваёй волі. Мы здагадаліся, што мастацкаму кіраўніку не хацелася казаць пра цяжкі і пакутлівы лёс М.Забэйды-Суміцкага, шмат гаварыць пра яго вялікі талент, адданасць Бацькаўшчыне, якую ён пранёс праз усё жыццё, любоў да роднай песні і матчынай мовы. Нічога дзіўнага тут не было: тым часам у былой БССР набірала сілу дэнацыяналізацыя.

Пад канец нашай гутаркі Рыгор Раманавіч прызнаўся:

– З Міхалам Іванавічам я знаёмы даўно. Яшчэ з Вільні. Гэта было пры польскім часе. Пасля кожнага канцэрта студэнты-беларусы выносілі яго з залы на руках.

– А тут, у Мінску, могуць цяпер вывесці пад рукі, – нехта з нас няўдала пажартаваў.

Рыгор Раманавіч спахмурнеў і змоўк.

У той вечар пашчасціла: адно запарашэнне наш мастацкі кіраўнік пакінуў мне. Я з нецярплівасцю пачаў чакаць заўтрашняга дня, каб пайсці на канцэрт.

Кансерваторская зала не змагла ўмясціць усіх, хто жадаў паслухаць голас знакамітага спевака. Не выклікала сумненняў, што ўлады знарок выбралі для канцэрта Забэйды-Суміцкага гэтае невялічкае памяшканне, каб туды трапіла абмежаванае кола людзей. Ды і сачыць за паводзінамі людзей было лягчэй.

Спяваў замежны артыст – госць на сваёй роднай зямлі – прачула і натхнёна сакавітым першым тэнарам. Яго рэпертуар быў насычаны арыямі з опер, чэшскімі, польскімі песнямі. Але асаблівую ўвагу і сваё спеўнае майстэрства ён аддаваў матчынай роднай песні. Часта, спеўшы беларускую песню, даставаў з кішэні хустачку і прыкладаў яе да вачэй. Зала горача яму апладзіравала. Пасля кожнай песні і апладысментаў знакаміты спявак звяртаўся да слухачоў, расказваў пра сваю творчую біяграфію. А часта кідаў у залу і крытычныя заўвагі пра тое, што дзеецца ў роднай яму Беларусі.



Міхась Забэйда-Суміцкі (з кветкамі ў руках) з хорам Рыгора Шырмы. Вільня, 1936 г.

Па-майстэрску праспяваўшы "Зялёны дубочак", ён раптам звярнуўся да слухачоў:

– Вось мой акампаніятар, чэх, пахадзіў сёння па вуліцах Мінска, паслухаў, як тут людзі гавораць, і кажа мне: "Пан Міхал, я не ведаю, куды мы прыехалі на гастролі. У вашую Беларусь ці ў Расію? Тут жа ўсе гавораць па-расійску. Можа, мы памыліліся і не ў той цягнік ускочылі?"

Зала пасля гэтых слоў сціхла, нібы замёрла. Але ненадоўга. Хутка на першых крэслах пачулася спярша злоснае, нібы вужачае, шыпенне, а затым цвёрды і рэзкі голас:

– В самом деле, вы сели не в тот поезд!

– И давно в нем едете! – падтрымаў яго з кута залы яшчэ адзін правакатар.

Прыхільнікаў таленту і выдатнага спевака і патрыётаў, што сабраліся тут, нібы кіпнем абдалі. Стала сорамна, балюча і крыўдна за тых людзей, якія прыйшлі сюды, выконваючы заданне абразіць, збэсціць спевака. Але Забэйда-Суміцкі не разгубіўся:

– Я еду ў правільным кірунку, да сваёй Радзімы. Гэта вы не туды прыехалі і спыніліся не на тым прыпынку. Заблудзіліся, панове!

У адказ зала ўзарвалася апладысментамі.

Пасля таго канцэрту спеваку забаранілі выступаць на Радзіме. Яго больш не запрашалі ў Мінск. Не дазволілі нават прыехаць, каб памерці на Бацькаўшчыне.

З таго часу мінула шмат гадоў. Распалася, нарэшце, савецкая імперыя. Пачала ажыццяўляцца мара спевака, гарачага патрыёта М.Забэйды-Суміцкага: яго родная Беларусь абвешчана незалежнай дзяржавай. Пачала ўзнаўляцца яе сапраўдная, а не ўяўная гісторыя. У выдавецтвах пабачылі свет кнігі пра слынных дзеячоў нашай гісторыі і культуры, пачалі выходзіць кнігі аўтараў беларускага замежжа. Імёны слаўных сыноў нашай краіны закрасаваліся ў назвах вуліц, плошчаў, школ і ўстаноў.

Міхал Забэйда-Суміцкі жадаў, каб пасля смерці ягоны архіў быў перададзены з Прагі, дзе жыў спявак, на Радзіму. Воля спевака была выканана, але ніхто не ведае пра далейшы лёс архіва. Дзе ён? На падставе архіўнага матэрыяла, які захоўваўся ў архіве, можна б было напісаць цікавую кнігу. Не знайсці ні касэты, ні кружэлкі з запісам спеўнай спадчыны нашага слаўнага спевака.

І апошняе. У 1914-1918 гадах Міхал Іванавіч вучыўся ў Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі. Адсюль павяла яго дарога ў вялікі свет спеўнага мастацтва і культуры. Унашым горадзе як нідзе шануюць памяць Міхала Забэйды-Суміцкага. Маладзечанская грамадскасць некалькі гадоў назад назвала адну з вуліц горада яго імем. Хацелася б яшчэ, каб і нашыя музычныя вучылішча і школа нейкім чынам ушанавалі памяць слыннага спевака зямлі беларускай.

***Мікола КАПЫЛОВІЧ.***

ПАМЯЦЬ



Маўклівыя сведкі мінулага

# Гістарычныя камяні Вілейшчыны

На тэрыторыі Беларусі, асабліва ў паўночнай і цэнтральнай яе частках, шырока распаўсюджаны валуны, якія былі прынесеныя сюды ледавіком з Фенаскандынавіі. Мноства валуноў засталося і на Вілейшчыне. З'яўляючыся неад'емнай часткай навакольнага асяроддзя, валуны здаўна занялі пэўнае месца ў духоўнай культуры беларускага народа. Культ камянёў узнік яшчэ ў каменным веку. У значнай ступені культавыя валуны звязаны з язычніцтвам. Пазней старажытныя культы ўліліся ў хрысціянскія культы святых месцаў і святых рэліквіяў. Валунам пакланяліся, прыносілі ім у ахвяру манеты, ежу, тканіны. Камяні атаясамлялі з людзьмі, з чортам. Такія валуны маюць спецыфічныя назвы і авеяны паданнямі.

Вывучэнне культавых камянёў Вілейшчыны распачалі яшчэ ў сярэдзіне мінулага стагоддзя А. Кіркор, К. Тышкевіч, пазней былі А. Сапуноў, Е. Раманаў, Ф. Пакроўскі. У 1930-ыя гады валуны Вілейшчыны вывучалі польскія геолагі.

Разнастайнасць культавых камянёў прывяла да неабходнасці іх кваліфікацыі, што і было зроблена вучонымі Акадэміі навук Беларусі. Яны былі падзеленыя імі на два асноўныя тыпы: культавыя валуны і культавыя вырабы з валуноў. Абодва тыпы дзеляцца на класы, а класы, у сваю чаргу, дзеляцца на віды. Культавыя валуны падзелены на пяць класаў. З класа магічных валуноў на Вілейшчыне, у першую чаргу, адзначаюцца камяні-следавікі і камяні-скарбнікі. Да нашага часу захаваўся камень-следавік з вёскі Бараўцы. Цяпер ён знаходзіцца каля будынка ...... імя М. Ю. Сілівановіча. Па паданні, на камяні сядзеў Бог і пакінуў на ім адбіткі пятак – дзве ямкі яўна штучнага паходжання дыяметрам каля 5 см, што дае падставы аднесці дадзены культавы камень да класа крыптагенных валуноў – да валуноў з ямкамі і выемкамі. Яшчэ адзін камень-следавік ляжыць на беразе ракі Нарач ля в. Вайдзені. На ім ёсць выемка прыроднага паходжання, якая па форме нагадвае след стапы нагі чалавека.

Паблізу вёскі Вязынь быў камень-скарбнік, пад якім, згодна з паданнем, шведы зарылі скарб. У в. Селішча быў камень з высечанай на ім падковай. Па паданні, пад каменем схавалі золата французы пасля паходу на Маскву. Яшчэ адно паданне пра схаваны скарб звязана з шырока вядомым Варацішыным камянём.

Цікавым класам культавых валуноў з'яўляюцца анімістычныя валуны, альбо пярэваратні. Гэта адгалоскі вераванняў у тое, што камяні раней маглі быць жывымі істотамі. Найбольш распаўсюджаныя паданні пра аратага, які акамянеў разам з валамі за тое, што працаваў на Вялікдзень. Такія камяні вядомыя ля вёсак Клесіна, Кузьмічы.

К. Тышкевіч пісаў, што, па паданні, Варацішын камень з в. Камена – гэта араты, ператвораны ў камень за тое, што араў на Вялікдзень. Каля в. Сцебяракі ёсць камяні з высечанымі на іх значкамі. Мясцовы жыхары называюць іх "Быкі каменныя" і расказваюць тое ж паданне.

У Беларусі вядомы дзесяць камянёў-шаўцоў і камянёў-краўцоў. Адзін з такіх помнікаў – самы буйны валун у Вілейскім раёне – знаходзіцца ля в. Куранец. Валун завуць Гомсін або Комсін Камень. Па паданню, на гэтым месцы стаяла хата шаўца Гомсіна, ператвораная ў камень за тое, што ён шыў абутак на Вялікдзень.

У Беларусі даволі шырока распаўсюджаны валуны, якія, па паданнях, звязаны з чортам. На Вілейшчыне Чортаў камень вядомы ля Жукаўка. На яго верхняй плоскасці вылучалася штучнае паглыбленне. Дажджавая вада, якая збіралася ў ім, лічылася лекавай. Гэтай вадой лячылі дзяцей ад перапуду. Такія звесткі даюць падставы адносіць камень да групы валуноў-гойбітаў, якія, па павер'ях, дапамагаюць ад розных хваробаў. Найбольш вядомым культавым камянём Вілейшчыны з'яўляецца валун, які знаходзіцца ў в. Камена на беразе Віліі. На ім высечаны крыж з дзвюма перакладзінамі і надпіс "Варацішын Хрэст". Адсюль і назва каменя. Некаторыя даследнікі адносяць камень да шырокавядомых Барысавых камянёў. Аднак першапачаткова камень быў язычніцкай святыняй, пра што сведчаць дзве штучныя ямкі дыяметрам каля 5 см на вяршыні каменя. Адкрыў помнік К. Тышкевіч. Пазней камень вывучалі А. Сапуноў і вядомы этнограф Е. Раманаў. Яны адкрылі сляды другога надпісу на валуне.

Найбольш загадкавай групай культавых валуноў з'яўляюцца крыптагенныя валуны, прызначэнне якіх пакуль дакладна не вызначана. Да гэтага класа адносяць валуны са знакамі і валуны з ямкамі і выемкамі. Група з пяці вертыкальна пастаўленых камянёў з выбітымі на іх неразгаданымі знакамі знаходзіцца ў лесе ля в. Сцебяракі. На чатырох з іх выбітыя розныя знакі, прычым на трох камянях выбіты знак "рог рытон". Больш нідзе на тэрыторыі Беларусі такі знак не сустракаецца.

Найбольш шматлікая група культавых камянёў Вілейшчыны – гэта валуны з ямкамі. Ямкі зафіксаваныя на шасці камянях раёна. Гэта камень-следавік з Бараўцоў, Варацішын камень, а таксама камяні ля вёсак Дварэц, Вуткі, Мішуты і Канстанполле. На плоскай паверхні каменя ля в. Мішуты высвідравана больш за 80 ямак – з'ява ўнікальная для Беларусі, а пра камень з Канстанполля гавораць, што пад ім схавана золата. На думку даследнікаў, ямкі высвідраваў старажытны чалавек прыкладна два тысячагоддзі назад.

Асобную групу камянёў складаюць валуны, звязаныя з суднаходствам па Віліі, якія ляжалі ў рэчышчы ракі і заміналі руху. Камень "Лысіна Паца" ляжаў у рэчышчы Віліі насупраць гарадскога парку. Паходжанне такой назвы яскрава апісаў Ігнат Ходзька ў аповесці "Берагі Віліі". Яшчэ два камяні – Пеўнік і Тапчак – ляжаць у рэчышчы Віліі ля в. Шведы.

Да другога тыпу культавых камянёў – культавыя вырабы з валуноў – адносяцца адпаведныя пабудовы, ідалы і каменныя крыжы. Шырока вядомы ў краіне каменны ідал з-пад в. Даўгінава, які перавезены ў Мінск у музей валуноў. Вучоныя лічаць каменную скульптуру язычніцкім ідалам жаночага бажаства.

Каштоўнымі гістарычнымі помнікамі з'яўляюцца і каменныя крыжы. На Вілейшчыне іх вядома два – з вёсак Любань і Кузьмічы.

Да пахавальных збудаванняў з каменя адносяцца магілы. Яны маюць каменныя вымасткі, каменныя абкладкі ў форме прастакутніка, радзей – у форме кола. Такія магілы датуюцца XI-XVII стст. і адзначаны на Вілейшчыне ў пяці мясцінах. Гістарычную каштоўнасць уяўляе і надмагільны камень у лесе ля в. Зацемень, на якім выбіты надпіс на польскай мове і дата "1655".

Найбольш позняй групай гістарычных камянёў з'яўляюцца камяні, звязаныя з падзеямі пачатку XX стагоддзя. Ля в. Студзенкі ляжыць камень з надпісам на польскай мове, зробленым падчас савецка-польскай вайны. На ім выбітая і дата – "1920". Другі камень мае выбітую дату "1935" і надпіс, прысвечаны Ю. Пілсудскаму. Знаходзіцца гэты камень у в. Будзькі.

Агляд гістарычных камянёў Вілейшчыны паказвае, што ў раёне дастаткова шмат падобных помнікаў. Яны адлюстроўваюць розныя перыяды гісторыі края. Пасля абследавання раёна ў 1997 годзе экспедыцыяй Інстытута геалагічных навук АН Беларусі найбольш каштоўныя валуны аб'яўленыя помнікамі прыроды рэспубліканскага значэння. Такімі помнікамі сталі Гомсін Камень у в. Куранец, Варацішын Камень у в. Камена, "каменныя валы" ля вёсак Сцебяракі і Кузьмічы, а таксама камяні з ямкамі паблізу вёсак Дварэц, Вуткі і Мішуты.

*Аляксандр ЗАЙЦАЎ.*

З ГІСТОРЫІ ШКОЛЬНІЦТВА

# Развіццё асветы ў Хаценчыцкім краі: мінулае і сучаснасць

У другой палове XIX ст. у Расійскай імперыі праводзілася школьная рэформа. Пачатак яе на Беларусі супаў з падаўленнем паўстання 1863 г. і масавымі рэпрэсіямі, якія ахапілі і сістэму адукацыі. Закрываліся навучальныя ўстановы, выключаліся навучэнцы, замяняліся мясцовыя настаўнікі выхадцамі з цэнтральных губерняў, ужыванне ў школе беларускай мовы забаранялася. Уся сістэма адукацыі арыентавалася на русіфікацыю вучняў, выхаванне іх у духу манархізму, праваслаўя і афіцыйнай народнасці.

Але жыццё рухалася, час дыктаваў сваё. І ў гэты трагічны для краю момант было адкрыта ў м. Хаценчыцы двухкласнае, Міністэрства народнай адукацыі, народнае вучылішча. Дакладная дата пачатку работы вучылішча пакуль што яшчэ не ўстаноўленая. Толькі ў ведамасці царквы "Успения Божей матери" в. Хаценчыцы адзначана, што "попечительство" пры школе існуе з 1880 г.

У канцы 90-х гадоў працавалі тры школы граматы і царкоўна-прыходская школа ў м. Батурына.

Народнае вучылішча давала больш грунтоўныя пачатковыя веды. Школы граматы адносіліся да ведамства сінода і мелі абмежаваную праграму навучання.

Сродкаў на асвету выдзялялася вельмі мала. Школы граматы ўтрымліваліся за кошт насельніцтва. Вось як запісана ў даведцы аб царкве в. Хаценчыцы святаром Сярэбранікавым: "В районе Хотенчицкой церкви существует три церкви грамоты: одна в д. Будьки, другая в д. Ловцевичи, а третья в д. Дубовое. Первая с 1893 года, вторая с 1898 года. Третья с 1900 года. Содержатся на средства крестьян упомянутых деревень. В 1899/1900 учебном году обучалось 43 мальчика и 4 девочки. При церкви находится Хотенчицкое народное училище, в нём обучается 78 мальчиков и 14 девочек. Приходское попечительство существует с 1880 года".

У некаторых вёсках – Карпавічы, Лядзвені, Беражок, Чарвякі, Скалбішча ды інш. – навучанне праводзілася па хатах так званымі "дарэктарамі".

Адсутнічалі ў краі земскія школы, паколькі земства на дадзенай тэрыторыі не існавала.

Становішча школы і настаўнікаў на рубяжы XIX-XX стст. было цяжкае і гаротнае. Асноўная прычына: адсутнасць сродкаў. Школы ўтрымліваліся мясцовым насельніцтвам шляхам збору падаткаў згодна з рашэннем валаснога сходу. Аб гэтым пісала "Наша ніва" у № 23 ад 21 чэрвеня 1907 г: "З Вілейскага ўезду нам піша адзін народны настаўнік аб сваім цяжкім становішчы. На сходзе пісар сказаў мужыкам, што настаўнікі атрымліваюць пенсію з казны. Тады сход пастанавіў не ўносіць у расклад 270 руб. на пенсію настаўніку. Тым часам казна дадае ўсяго 30 руб. да гэтых 270 руб. а з гэтых 30 руб. яшчэ вылічваецца 18 руб. у пенсіённую касу, так што настаўніку трэба жыць за 12 руб. у год, значыць, за тры капейкі ў дзень".

З-за недахопу грашовых сродкаў Хаценчыцкае народнае вучылішча на некаторы час закрывалася ў 1907/1908 навучальным годзе. 8 лістапада 1907 г. мужыкі сабралі сход і пастанавілі зноў даваць усё патрэбнае на ўтрыманне школы. Пастанавілі паслаць куды трэба прашэнне, адкрыць зноў школу і вярнуць настаўніка, што быў раней", – такое паведамленне зрабіла "Наша ніва" у № 34 за 1907 г.

У пачатку года ў краі настаўнікамі працавалі:

у Хаценчыцкім народным вучылішчы – Сапрык Восіп Восіпавіч, Пракапец Аляксей Іванавіч, Якубіцкі Уладзімір Мікалаевіч; у школах граматы в. Дубавое – Казлоў Георгій Мікалаевіч, потым Вораг Якаў Якаўлевіч; у школе граматы в. Лоўцавічы – Быкаў Мікалай Емяльянавіч.

Школы граматы в. Дубавое і в. Лоўцавічы ў 1913 годзе адзначаны святаром Баярчуком як народныя вучылішча.

Сапрык В. В. нарадзіўся ў 1870 г. на хутары Сіўкава (цяпер Лагойшчына) Хаценчыцкай воласці. Закончыў Маладзечанскую семінарыю. Па поглядах быў эсэрам. Часта праводзіў сходы сялян, накіраваныя супраць цара і памешчыкаў, у варожых стасунках знаходзіўся са святаром Баярчуком Хаценчыцкага прыхода.

У лістападзе 1917 г. разам з членамі РСДРП Кажурам Уладзімірам Фёдаравічам і Ворагам Якавам Якаўлевічам усталёўваў Савецкую ўладу ў воласці. Прымаў актыўны ўдзел у настаўніцкіх з'ездах. 15-16 сакавіка 1919 г. ад Вілейкі быў дэлегатам на Усерасійскім з'ездзе настаўнікаў. У 1920 г. працаваў загадчыкам аддзела народнай адукацыі Вілейскага ваенна-рэвалюцыйнага камітэта. Пасля 1921 г. (Рыжскага мірнага дагавора) жыў разам з братам у в. Мачулішчы Лагойскага раёна, працаваў у школе в. Вяпраты. Скончыў сваю працоўную дзейнасць паштальёнам.

Акрамя грашовай праблемы, настаўнікаў у пачатку стагоддзя хвалявала і праблема моўная, а таксама стан вучэбна-выхаваўчай работы ў народных школах. У жніўні 1908 г. газета "Наша ніва" паведамляла: "У Вілейскім павеце ў прошлым тыдні быў з"езд групы народных настаўнікаў з гэтага павету. Найбольш гаварылі аб навучанні беларускіх дзяцей у народных школах. Усе прызналі, што школы прыносяць дзецям куды больш карысці, калі вучыць іх будуць пачынаць па-беларуску, як яны прывыклі гаварыць з бацькамі ў хаце; цяпер дзецям вельмі цяжка пазнаваць у школе адразу і незнаёмыя навукі і незразумелую расійскую мову. Казалі, што беларускі мужык лічыць родную мову сваю за "хамскую", дрэнную, брыдкую. Дый праз гэта ў сабе не бачыць чалавека, а толькі хама. Дык трэба паказаць нашаму мужыку, што яго мова – таксама людская і добрая, як усе іншыя, што і сам ён не "хам", а чалавек".

Каб шырыць гэтакія думкі, каб дабівацца навучання дзяцей у пачатковых школах па-беларуску, каб дабіцца перабудовы ўсяго народнага навучання на карысць народу і каб палепшыць жыццё настаўнікаў, усе прысутныя на з'ездзе пастанавілі далучыцца да "Беларускага настаўніцкага саюза". Як гэтыя словы газеты сугучны нашаму часу, як яны адпавядаюць сучасным рэаліям жыцця Беларусі, стану беларускай мовы!

У 1911 г. навучанне дзяцей было арганізавана ў в. Малявічы, а ў 1914 г. – у в. Новая Гута.

Старажылы вёсак нашага краю добра памятаюць тых, хто сеяў добрае, вечнае, разумнае ў сялянскіх хатах – Кажуру Уладзіміра Фёдаравіча, Шарамета Іосіфа.

З хатняга настаўніка пачынаў сваю педагагічную дзейнасць Яноўскі Пётр Піліпавіч. Ён нарадзіўся ў 1891 г. у в. Залескія Хаценчыцкай воласці ў сялянскай сям'і. З 1909 па 1912 гады вучыўся ў Барунскай царкоўна-настаўніцкай школе на Ашмяншчыне, атрымаў званне настаўніка царкоўна-прыходскай школы без права вучыць царкоўным спевам. З 1912 па 1960 гады – да выхаду на пенсію – працаваў на радзіме настаўнікам пачатковай школы. У 1927 г. беларуская школа ў в. Залескія была закрыта палякамі, Пётр Піліпавіч уладкоўваецца на працу рахункаводам у гуту "Залессе". З верасня 1939 г. зноў працуе настаўнікам. У час нямецкай акупацыі працуе на гаспадарцы, з'яўляецца сувязным партызанскага атрада "Жалязняк". За шматгадовую бездакорную працу ў сакавіку 1945 г. узнагароджаны Граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР.

У мястэчку Батурына хатнім настаўнікам некаторы час працаваў Самуіл Плаўнік, будучы пісьменнік Змітрок Бядуля. Аб гэтым паведамляе член-карэспандэнт НАН РБ І. Я. Навуменка ў сваёй кнізе "Змітрок Бядуля": "Нейкі час Самуіл Плаўнік працуе настаўнікам яўрэйскай мовы. Спачатку ў мястэчку Батурына, затым у Пасадцы. Мы вельмі мала ведаем і пра гэты перыяд жыцця будучага пісьменніка". Праца настаўніка яўрэйскай мовы была пасля вучобы Самуіла Плаўніка ў хедары в. Ілья.

**Працяг будзе.**

*Я. БУДАВЕЙ, гісторык, былы дырэктар Хаценчыцкай СШ.*



Беларуская моладзь.

КУФЭРАК № 15

Адказны за падрыхтоўку матэрыялаў Міхась Казлоўскі.
У падрыхтоўцы "Куфэрка" прымалі ўдзел Таіса Трафімава, Алесь Капуцкі, Анатоль Акулік.

